# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№1 (224)

студзень 2021

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"



## У НУМАРЫ:

### Памёр Леанід Лыч

Памёр сябра Вялікай Рады ЗБС "Бацькаўшчына", прафесар Леанід Лыч, слынны беларускі гісторык, доктар гістарычных навук. У лютым яму б споўнілася 92 гады. Апошнія тыдні ён знаходзіўся ў цяжкім стане ў бальніцы, хварэў на каранавірус.

Старонка 2

### У другой палове 2020 году ў Беларусь не ўпусцілі некалькі тысяч чалавек

Пра гэта заявіў старшыня Памежнага камітэту Анатоль Лапо ў эфіры тэлеканалу "Беларусь-1".

Старонка 5

### Актывісткі дыяспары: як скасоўвалі чэмпіянат у Мінску

Актывісткі беларускай дыяспары Вераніка Чарняўская са Швейцарыі, Кацярына Зюзюк з Італіі і Дар'я Рудзько з Чэхіі расказваюць пра шматлікія акцыі ў свеце, якія паўплывалі на рашэнне аб адмене правядзення хакейнага чэмпіянату свету ў Мінску.

Старонка 6

Ва ўмовах пандэміі COVID-19 Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" працягвае сваю працу, але, выконваючы рэкамендацыі СААЗ, у рэжыме самаізаляцыі.

Беражыце і вы сябе таксама!

#будзьмадома



У адсутнасць Паўла з перамогай павіншавалі Вольгу Севярынец

# ПАЎЛА СЕВЯРЫНЦА ЎЗНАГАРОДЗІЛІ ПРЭМІЯЙ "ВОІН СВЯТЛА" ІМЯ ЖЫЗНЕЎСКАГА

26 студзеня ў Кіеве ўручылі штогадовую ўкраінска-беларускую літаратурную прэмію "Воін святла" імя Міхася Жызнеўскага. Сёлета лаўрэатам стаў пісьменнік і грамадскі дзеяч, сябра Саюзу беларускіх пісьменнікаў і Рады ЗБС "Бацькаўшчына" Павел Севярынец. Прадстаўнікі Саюза наведалі сям'ю Севярынцаў і павіншавалі яго жонку Вольгу. Памятную статуэтку і дыплом атрымае ў Кіеве сяброўка Паўла, грамадская дзяячка Алена Талстая. Ад украінскага боку лаўрэатам прэміі стаў палтаўскі празаік, фатограф, ветэран АТА Віталі Запека.

У гэты самы дзень старшыня ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" Барыс Пятровіч і першы намеснік старшыні Алесь Пашкевіч уручылі памятны дыплом мінулагодняму лаўрэату прэміі Жызнеўскага, акадэміку Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкаму, які не змог наведаць Кіеў у сувязі з эпідэміяй каронавірусу.

Павел Севярынец быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі 7 чэрвеня 2020 года па дарозе дадому. Пасля гэтага ў дачыненні да яго было вынесена, як мінімум, тры пастановы аб адміністрацыйных арыштах па 15 сутак кожная за ўдзел у перадвыбарчых пікетах і заклікі да ўдзелу ў масавых мерапрыемствах. Пасля 75 сутак адміністрацыйнага арышту Паўла Севярынца не выпусцілі на свабоду, а перавялі ў СІЗА №1 у статусе падазраванага па арт. 293 КК (Арганізацыя масавых беспарадкаў). Яму было прад'яўлена абвінавачванне. 24 снежня 2020 года стала вядома, што Паўлу Севярынцу працягнулі тэрмін утрымання пад вартай яшчэ на два месяцы – да 20 лютага 2021 года.

Воін Святла (па-украінску: Воїн світла) – міжнародная ўкраінска-беларуская прэмія памяці беларускага актывіста і журналіста, сябра Самаабароны Майдану, кавалера ордэна герояў Нябеснай сотні Міхаіла Жызнеўскага. Узнагарода ўручаецца ў дзень нараджэння Жызнеўскага каля яго надмагілля ў Кіеве. Заснаваная летам 2015 года Саюзам беларускіх пісьменнікаў і Нацыянальным саюзам пісьменнікаў Украіны. Прэмія прысуджаецца штогадова "за кнігу ўкраінскага і беларускага аўтара, у якой дзейнічае высакародны, смелы герой, які змагаецца за справядлівасць, правяшчае агульначалавечыя каштоўнасці і з'яўляецца прыкладам для пераймання". Папярэднімі лаўрэатамі прэміі ад Беларусі былі Анатоль Бароўскі, Міхась Скобла, Валянцін Дубатоўка, Радзім Гарэцкі.

Віншуем лаўрэатаў, чакаем Паўла Севярынца на волі!

Паводле lit-bel.org

**in memoriam**

# ПАМЁР ЛЕАНІД ЛЫЧ

Памёр сябра Вялікай Рады ЗБС "Бацькаўшчына", прафесар Леанід Лыч, слынны беларускі гісторык, доктар гістарычных навук. У лютым яму б споўнілася 92 гады. Апошнія тыдні ён знаходзіўся ў цяжкім стане ў бальніцы, хварэў на каранавірус.

Прафесар Леанід Лыч стаяў ля вытокаў "Бацькаўшчыны" і праз усе гады існавання Згуртавання, ад 1990 года, быў адным з самых актыўных яго сябраў.

Леанід Міхайлавіч Лыч нарадзіўся 8 лютага 1929 года ў сельскай сям'і ў в. Магільнае на Уздзеншчыне. Пасля вайны навучаўся ў Мінскім статыстычным тэхнікуме, ваенным вучылішчы, скончыў гістарычны факультэт Башкірскага педагагічнага інстытута ва Уфе (1957). З 1958 г. працаваў настаўнікам. З 1962 года – у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук БССР, дзе прайшоў шлях ад старшага лабаранта да галоўнага навуковага супрацоўніка (2016), доктара гістарычных навук, прафесара. Быў старшынёй Тапанімічнай камісіі пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (1992 – 1996).

Адзін з аўтараў кніг: "Гісторыя Мінска" (1967), "Нарысы гісторыі Беларусі", "Гісторыя культуры Беларусі" (1996) ды інш.; аўтар кніг і манаграфій, сярод якіх "Беларуская нацыя і мова" (1994), "Назвы зямлі беларускай" (1994), "Беларуская нацыянальная ідэя: тэарэтычны і практычны аспекты" (2010), "Нацыянальна-культурнае жыццё Беларусі на тэрыторыі функцыянавання нямецкага акупацыйнага рэжыму" (2011), "Краязнаўства ў кантэксце сучаснага нацыянальна-культурнага жыцця Беларусі" (2013), "Беларусы на мяжы нацыянальнай катастрофы" (2015) і інш.

Прафесар Лыч шмат пісаў пра важнасць беларускай мовы і абароны нашай культуры, даследаваў пытанні сацыяльна-класавых адносін у савецкі час, гісторыю беларускай культуры, моўную палітыку ў Беларусі ў XIX–XX ст., міжнацыянальныя адносіны ў краіне ў XX стагоддзі, нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва, праблему культурнага жыцця на тэрыторыі пад юрысдыкцыяй акупацыйных уладаў, а таксама прычыны цяжкасцей этнакультурнага жыцця беларускага народа ў выніку правядзення супярэчнай яго інтарэсам дзяржаўнай моўнай палітыкі.

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" смуткуе і выказвае шчырыя спачуванні сваякам, блізкім і калегам Леаніда Лыча, а таксама ўсім, хто яго ведаў. Гэта вельмі вялікая страта.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**




## У МІНСКУ РАЗВІТАЛІСЯ З ЛЕАНІДАМ ЛЫЧОМ

Леанід Лыч пайшоў з жыцця 17 студзеня.

Развітанне са знаным гісторыкам, прафесарам, доктарам гістарычных навук адбылося 19 студзеня.

На развітанне з Леанідам Лычом прыйшло некалькі дзясяткаў чалавек, сярод якіх былі родныя гісторыка, калегі, сябры па грамадскай дзейнасці. На развітанні прысутнічалі кіраўнік Беларускай Грэка-Каталіцкай царквы, апостальскі візітатар Сяргей Гаек, выдавец Павел Жук, намеснік старшыні Рады "Бацькаўшчыны" Валеры Герасімаў і гісторык Сяргей Пятровіч, бард Андрэй Мельнікаў, сябра ТБМ Мікола Лавіцкі і іншыя.

Гісторык Сяргей Пятровіч згадаў Леаніда Лыча, як чалавека, у якога ён не вучыўся ў інстытуце гісторыі, але які быў яго настаўнікам і ўзорам па жыцці – узорам у любові да Беларусі.

Барду Андрэю Мельнікаву Леанід Лыч запомніўся як вельмі ўважлівы чалавек, які ўмеў слухаць і змястоўна адказваць на пытанні. Таксама бард звярнуў увагу на тое, што Леанід Лыч быў чалавекам, які прыйшоў у беларускі свет ужо ў дарослым узросце, калі вярнуўся ў Беларусь:

"Чалавек, які прыйшоў да беларушчыны ўжо ў вельмі сталым узросце, маючы навуковую ступень... Ён імкнуўся спасцігаць беларускі свет і рабіць у ім тое, на што хапала ведаў... "

Апошняя сустрэча з ім, якую запомніў – на восеньскія Дзяды-2019... Ён прыйшоў да Кальварыйскіх могілак памянуць загінулых пад час савецкіх рэпрэсій. Тым разам ён на могілках не выступаў – сухенькі падцягнуты дзядок у някідкай вопратцы. Адмовіўся ад прапановы яго падвезці – яму было важна прайсціся самому, штосьць асэнсаваць..."

Пахаваны Леанід Лыч будзе на сваёй Радзіме на Уздзеншчыне на могілках у аграгарадку Магільна.

**Марцін Мельнікаў, novychas.by**

**навіны**

# СТАЛІ ВЯДОМЫЯ ІМЁНЫ ЎЗНАГАРОДЖАНЫХ БІНІМ У КАНАДЗЕ ЗА 2020 ГОД

**За развіццё беларускай культуры "Дыпломам БІНІМ, Канада" ўзнагароджаныя:**

- Ірына Варабей – за шматгадовае развіццё і папулярызацыю беларускай вышыванкі;
- Сяргей Мазгавы – за актыўны ўдзел у арганізацыі і правядзенне шматлікіх беларускіх акцый у Канадзе, а таксама за арганізацыю і правядзенне Сусветнага кангрэса беларусаў;
- Адам Мальдзіс – за надзвычайны ўклад у развіццё беларускай культуры і літаратуры;
- Уладзя Шамецька – за шматгадовую падтрымку і развіццё культурніцкіх праектаў у Канадзе;
- Валянціна Шаўчэнка – за стварэнне кліпа і выкананне песні "Не сыпняйся!", якая ўвайшла ў 10 найлепшых прагэсных песень Беларусі ў мінулым годзе.

**За развіццё беларускай культуры "Падзяка БІНІМ, Канада" выказана:**

- Уладзі Шамецька, Юрасю Шамецьку, Інне Каралькевіч, Аляксандру Каралькевічу і Сяргею Мазгавому – за правядзенне вечарыны-канферэнцыі, прысвечанай 90-годдзю з дня нараджэння У. Караткевіча;
- Вользе Боэ, Аляксандру Каралькевічу, Марыі Коневай, Міхасю Рыкаву, Галіне Рэзаіпур, Наталлі Стралковай і Уладзі Шамецька – за стварэнне музычнага праекта "Сэрцам з Беларуссю".

Віншуем узнагароджаных і шчыра дзякуем за працу на карысць беларускай нівы.

**Паводле Сяргея Панізніка**

меркаванне

# Віктар Марціновіч: БЯГОМ ГЛЯДЗЕЦЬ "ДАРАГІЕ ТАВАРЫШЧЫ"!

Я стаўлюся да расійскага кінематографа гэтаксама, як і вы.

Уласна, з 1986, калі Таркоўскі скончыў сваё "Ахвярапрынашэнне", эстэту лавіць тут няма чаго – хіба што парагатаць з чарговых прыколаў Жоры Крыжоўнікава. Але вось ён, найлепшы фільм з 1986 года, а можа, і за ўсю гісторыю рускамоўнага кіно. Цікавы яшчэ і тым, што ў Расіі ён не асабліва "пайшоў", а магчымае атрыманне фільмам "Оскара" абмяркоўваецца з пагардай. Маўляў, рэжысёр "наліў гною" на "наша слаўнае савецкае мінулае" і таму так ласкава прыняты на Захадзе.

Фільм мае назву "Дарагіе таварышчы" і вымаразіць вас у схаладненне пазнавання нашых падзей яшчэ на этапе прагляду трэйлера. Галоўная гераіня – добра вядомая беларускім тэатраманам старой закалкі Юлія Высоцкая: у 1995-м яна скончыла Беларускую мастацкую акадэмію і працавала ў Купалаўскім. Пасля пайшла за Андрона Канчалоўскага, а той назаўсёды зрабіў яе "Людмілай" – партыйнай працаўніцай Новачаркаскага гаркама ў сваім галоўным фільме.

"Дарагіе таварышчы" – гэта вычарпальнае выказванне пра тое, чым была хвалёная "адліга" ў СССР – бо менавіта падчас хрушчоўскай "адлігі" адбылася драма, якой прысвечаны фільм.

Я, дарэчы, не разумею, як такая антысавеччына магла быць знятая ў сучаснай Расіі. У Беларусі з яе сённяшнімі норавамі заяўка не прайшла б яшчэ на этапе ўхвалення сінопсіса. Магчыма, адыграла сваю ролю заступніцтва Алішэра Усманава, які спрадзюсаваў твор. Я не ўяўляю, навошта тое спатрэбілася Усманаву – магчыма, ён такім чынам вырашаў свае рэпутацыйныя задачы. Цяпер Усманаў – не толькі алігарх, але яшчэ і фундатар самага галоўнага расійскага кіно з часоў распаду Саюза.

Андрон Канчалоўскі заўсёды быў славуты падыходамі да кастынгу – акторскі набор тут такі, што часам адчуванне, нібыта глядзіш не стылёвы "закос" пад Марлена Хуцыева, а менавіта аўтэнтычнае кіно тых часоў. Прынцып той жа, што быў скарыстаны ў чорна-белых серыях "Перавалу Дзятлава": бяром савецкую "новую хвалю" і "робім як яны".

Але, паўтаруся, твары партыйных работнікаў і супрацоўнікаў дзяржбяспекі тут такія, быццам яны – жывыя партрэты спецсектара прэстыжных савецкіх магілак.




Нехта цяпер крытыкуе сцэнар – а як на мяне, сцэнар напісаны дасканала. Тое, што паўстанне і расстрэл паказаныя вачыма адданай камуністкі; тое, што само кіно пачынаецца з паходу гэтай камуністкі ў "стол заказаў", з сарамлівым працісканнем праз натоўп згаладнелых савецкіх людзей, якія ціскаюцца за яшчэ не падаражэлы кефір, – вельмі дакладна!

Да таго ж тут прачытваецца ўлюбёная тэма тэатра Сафокла – канфлікт паміж прыватным жыццём і сацыяльным доўгам, які быў добра выведзены яшчэ ў "Антыгоне".

Савецкая Антыгона таксама мае свайго "Палініка" – гэта яе дачка Светка. Светка збіраецца ісці на завадскую стачку, "бо ідуць усе", матуля ж на партыйным сходзе заклікае прысуджаць завадатараў ажно да "найвышэйшай меры". На раніцу на стачку выпраўляецца не толькі дачка, але і бацька камуністкі, прычым нацягвае казацкі строй з царскімі медалямі.

Пасля таго як па людзях пачынаюць шмаляць на паражэнне і дачка Людмілы знікае, наступае самае цікавае.

Бо высвятляецца, што восем нябожчыкаў у моргу Новачаркаска – гэта не ўсе забітыя, былі яшчэ. Але іх развезлі па аддаленых могілках і "падсялілі" ў труны на занядбаных магілах, запужаўшы ўсіх датычных да гэтай справы настолькі, што тыя толькі здольныя лыпаць вачыма і казаць: "Нічога не ведаю. Нічога".

І горад закрыты і ачэплены войскам, і адзіны памочнік Людмілы на яе шляху ў пошуках дачкі, кадэбэшны афіцэр, адразу тлумачыць той, што "нічога не было, нікога не забілі".

І што ўсё гэта трэба забыць. Разам з дачкой.

Нічога не нагадвае?

Але самы моцны момант у кіно – калі Людміла, сутыкнуўшыся з асабістай трагедыяй, кажа, што гэта ўсё таму, што "Сталін памёр".

Бо "пры Сталіне цэны зніжаліся, а заробкі раслі". Яна пачынае хвастаць гарэлку з гарла па дарозе з тых самых могілак. Яна п'е і спявае "Таварыш, таварыш! У трудзе і баю!" – і гэта па ўздзеянні роўнае сцэне спалення дома ў "Ахвярапрынашэнні".

Гэты фільм варта паглядзець проста цяпер, не адкладаючы – дзякуй богу, ён ужо з'явіўся ў вольным доступе.

І, паглядзеўшы, паспрабаваць зрабіць сваю краіну такой, каб пра яе немагчыма было здымаць такія фільмы.

**Віктар Марціновіч, budzma.by**

навіны

# У ЕЎРАПЕЙСКІ ВЯШЧАЛЬНЫ САЮЗ НАКІРАВАЛІ ЛІСТ З ПРОСЬБАЙ ВЫКЛЮЧЫЦЬ З АРГАНІЗАЦЫІ БЕЛТЭЛЕРАДЫЁКАМПАНІЮ

Калі адказ будзе ўхвальным, беларускі дзяржаўны тэле- і радыёвяшчальнік страціць права ўдзельнічаць у конкурсе "Еўрабачанне".

Беларускі фонд культурнай салідарнасці запусціў кампанію для выключэння Белтэлерадыёкампаніі з Еўрапейскага вяшчальнага саюза (EBU) і пазбаўлення права на трансляцыі і ўдзел вяшчальніка ў "Еўрабачанні".

Адпаведны ліст прадстаўнікі Фонду накіравалі ў офіс Еўрапейскага вяшчальнага саюза, які месціцца ў Жэневе.

Падставай звароту стала сітуацыя, якая склалася з пераможцам нацыянальнага адбору на песенны конкурс "Еўрабачання".

У 2020 годзе беларускі нацыянальны вяшчальнік абвясціў новы конкурс на права ўдзелу ў "Еўрабачання-2021", якую адклалі на год праз пандэмію каранавірусу.

Дуэт VAL, які перамог у беларускім конкурсе ў 2019 годзе, меў ехаць на "Еўрабачанне-2020", але яе адклалі на год праз каранавірус. Летась гэты дуэт раскрытыкаваў прымус выступаць на дзяржаўных канцэртах і падпісаўся пад лістом супраць гвалту, за што атрымаў ад Белтэлерадыёкампаніі абвінавачанні ў "адсутнасці сумлення". Іх перамога была фактычна анулявана.

**svaboda.org**


16.01.
Беласток


23.01.
Кіеў
СВОБОДУ
ИГОРЮ ЛОСИКУ
И ВСЕМ
ОЛИТЗАКЛЮЧЁННЫ
svaboda.org (RFE/RL)


23.01.
Прага


23.01.
Беласток


24.01.
Філадэльфія
#FREEDOM ALEXEI KUDIN
#FREEDOM BELARUS
#FREEDOM ALEXEI KUDIN


24.01.
Парыж
@belamova
#FreeIharLosik
#ЯМыЛосик
#BelarusProtest
Il y a 190 prisonniers politiques au #Belarus


23.01.
Санкт-Пецярбург


23.01.
Вашынгтон
@belamova


23.01.
Чыкага
@belamova
FREE POLITICAL PRISONERS
Stop dictator!!!
Freedom for political prisoners in Belarus!
ЧЫКАГА З ВАМІ


24.01.
Львоў
Свабоду Ігару Лосіку

навіны

# СЯРГЕЙ ЦІХАНОЎСКІ ПАВІНШАВАЎ БЕЛАРУСАЎ БРАЗІЛІІ І ПААБЯЦАЎ НАВУЧЫЦЦА ТАНЧЫЦЬ САМБУ

Палітвязень і блогер Сяргей Ціханоўскі даслаў віншавальную паштоўку беларускай дыяспары ў Бразіліі.

Віншавальная картка ішла з Беларусі месяц, паведаміла прадстаўніца дыяспары Ірына Найдзёнава.

У ёй Сяргей Ціханоўскі віншуе беларусаў Бразіліі з Раством і Новым годам і абяцае прыехаць у госці. Напрыканцы паслання Сяргей просіць даслаць кароткую інструкцыю як танчыць самбу – будзе рыхтавацца.

Апроч таго палітвязень зазначае, што больш за ўсё замежных лістоў яму прыйшло з ЗША, таму гэтую краіну ён таксама збіраецца наведаць па вызваленні.

Вы таксама можаце напісаць Сяргею Ціханоўскаму на адрас: Следчая турма №8, 222163, г. Жодзіна, вул. Савецкая, 22А.

novychas.by


Поздравляю белорусов Бразилии с Рождеством и Новым годом! Пусть исполнятся невероятные желания! Обязательно приеду, но не обещаю что с семьёй! Кто-то должен работать и строить страну для жизни! :) И не знаю в каком году. Больше всего писем пришло из США, поэтому туда тоже собираюсь. Программу оформлю! Пришлите кратко как танцевать самбу – буду готовиться!
29.12.2020
С.Л. Тихановский

Belarus



# У ДРУГОЙ ПАЛОВЕ 2020 ГОДА Ў БЕЛАРУСЬ НЕ ЎПУСЦІЛІ НЕКАЛЬКІ ТЫСЯЧ ЧАЛАВЕК

Пра гэта заявіў старшыня Памежнага камітэту Анатоль Лапо ў эфіры тэлеканалу "Беларусь-1".

Сярод тых, каго не прапусцілі, Лапо асабліва адзначыў тых, хто хацеў працягнуць балтыйскі "ланцуг салідарнасці". "Мы гэтага не дапусцілі", – сказаў Лапо.

Летась 23 жніўня ў Літве адбылася акцыя салідарнасці "Шлях свабоды". Больш як 30 тысяч удзельнікаў сталі ў "жывы ланцуг" ад Вільні да беларускай мяжы. У тым ліку прэзідэнт Гітанас Наўседа, а таксама былыя кіраўнікі Літвы Валдас Адамкус, Вітаўтас Ландсбергіс, Даля Грыбаўскайце.

svaboda.org паводле БелаПАН

# АБВЕШЧАНЫ ПРЫЁМ ТЭКСТАЎ У НАСТУПНЫ ВЫПУСК АЛЬМАНАХА БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ ЗАМЕЖЖА "БЕЛАРУС"

Рэдакцыя Альманаха рада абвясціць, што ў студзені пачалася падрыхтоўка наступнага выпуску, выхад якога запланаваны на верасень 2021 года, і запрашае літаратараў, якія пішуць на беларускай мове і стала жывуць па-за межамі Беларусі, дасылаць свае творы для друку.

Штогадовы альманах "Беларус", які з 2007 года выходзіць у Нью-Ёрку (ЗША), друкуе творы аўтараў, якія пішуць па-беларуску і жывуць па-за межамі Беларусі. Галоўная мэта праекта сёння – даць пляцоўку для публікацыі актуальным і патэнцыйным літаратурным сілам і талентам сярод беларускай грамады ў замежжы. Творчае пераасэнсаванне досведу землякоў удалечыні ад Бацькаўшчыны, але з думкамі пра яе – гэта таксама адна з мэтаў выдання.

Просьба дасылаць матэрыялы на імя рэдактара Альманаха сп. Марата Клакоцкага на адрасы электроннай пошты: mklakotski@gmail.com, zamova@e-krama.com да 1 чэрвеня 2021 году. Адрас для рукапісаў у неэлектронным фармаце: Marat Klakotski, P.O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735, U.S.A.

Альманах выходзіць у Нью-Ёрку, але рэдакцыя прымае творы аўтараў з усяго свету. Асноўным акцэнтам у рэдакцыйнай палітыцы ёсць публікацыя арыгінальных мастацкіх твораў усіх жанраў, але таксама вітаюцца пераклады і мемуарныя матэрыялы. Тэматыка твораў не абмяжоўваецца. Аднак акрамя аўтараў выданню таксама патрэбныя чытачы. Напрыканцы 2020 году выйшаў чарговы, ужо 14 выпуск Альманаху "Беларус". Амаль 500-старонкавае выданне змяшчае творы 29 аўтараў, сярод якіх ёсць як вядомыя літаратары: Сяржук Сокалаў-Воюш, Зянон Пазняк, Сяргей Панізнік, Макс Шчур, а таксама менш вядомыя і пачаткоўцы.

Замовіць апошні выпуск Альманаху "Беларус", а таксама папярэднія выпускі можна праз электронныя адрасы mklakotski@gmail.com, zamova@e-krama.com або на сайце www.e-krama.com.

Пашырайце інфармацыю пра Альманах "Беларус" – адзінае мастацкае літаратурнае выданне аўтараў замежжа, што пішуць па-беларуску!


Марат Клакоцкі

budzma-krama.by budzma-krama.by
БУДЗЬМА! КРАМА
budzma-krama.by budzma-krama.by
BELARUS

спорт

# АКТЫВІСТКІ ДЫЯСПАРЫ: ЯК СКАСОЎВАЛІ ЧЭМПІЯНАТ У МІНСКУ

Актывісткі беларускай дыяспары Вераніка Чарняўская са Швейцарыі, Кацярына Зюзюк з Італіі і Дар'я Рудзько з Чэхіі расказваюць пра шматлікія акцыі ў свеце, якія паўплывалі на рашэнне аб адмене правядзення хакейнага чэмпіянату свету ў Мінску.

### Як швейцарскія беларусы пікетавалі Міжнародны Алімпійскі камітэт і Міжнародную хакейную федэрацыю

Вераніка Чарняўская: Першы і самы важны этап быў – Міжнародны Алімпійскі камітэт. З намі звязаліся прадстаўнікі Беларускага фонду спартовай салідарнасці, якім была патрэбная дапамога – прадставіць беларусаў, данесці ліст да спадара Томаса Баха. Нам удалося даволі хутка па швейцарскіх мерках арганізаваць гэтае мерапрыемства. Мы правялі 4-кіламетровы марш ад Алімпійскага музея ўздоўж возера да офіса Міжнароднага Алімпійскага камітэта. Было прыемным сюрпрызам, што МАК пагадзіўся прыняць трох чалавек ад нас. Мы думалі, што гэта зойме хвілін дваццаць, але ў выніку больш за дзве гадзіны з намі размаўлялі прадстаўнікі МАК. Ніхто не верыў спачатку, што гэта атрымаецца, але яны сур'ёзна ўзяліся за справу і ўжо ў снежні агучылі рашэнне пра тое, што Лукашэнку забаронена ўдзельнічаць у алімпійскіх мерапрыемствах.

Поспех з МАК нам дапамог і з Міжнароднай хакейнай федэрацыяй. Мы пачалі пісаць спадару Рэнэ Фазэлю. Першы наш пікет адбыўся ў лістападзе. Адрозна ад МАК, там нас ніхто не вітаў, не чакаў і не адказваў на лісты. Нас цалкам ігнаравалі, але мы і прадстаўнікі Фонду спартовай салідарнасці працягвалі ім пісаць. Алена Леўчанка зрабіла адкрыты ліст. Тады спадар Фазэль "прачнуўся", але сустрэча з намі ўсё роўна не атрымалася. Што дапамагло – візіт спадар Фазэля ў Беларусь, які страшна абурыў усіх швейцарцаў, а не толькі беларусаў. Пайшла вялікая медыяхваля. Мясцовыя беларусы таксама стараліся, каб трымаць гэтую павестку гарачай. Нам удалося арганізаваць пікет ля Міжнароднай федэрацыі хакея, дазволілі толькі 10 чалавек праз ковідныя абмежаванні. Нас ніхто не сустракаў ля хакейнай федэрацыі, але пазней мы даведаліся, што спадар Фазэль глядзеў на нас у акно. І ўсё ж удалося зайсці ўсярэдзіну, каб перадаць ліст маці Рамана Бандарэнкі.



Вераніка Чарняўская



Дар'я Рудзько

### Як беларусы Чэхіі змагаліся супраць правядзення чэмпіянату ў Мінску

Дар'я Рудзько: Мы займаліся тэмай адмены чэмпіянату з верасня. Праца са спонсарамі была нашым апошнім крокам. Да гэтага правялі вельмі шмат працы з палітыкамі, са СМІ, напісалі шмат лістоў людзям, якія маюць дачыненне да гэтай тэмы і якія маглі нейкім чынам паўплываць. Пікет ля сядзібы завода Škoda арганізавалі хутка, за некалькі дзён. Праз каранцінныя абмежаванні мы не маглі праводзіць маштабныя акцыі, было дазволена да 10 чалавек удзельнікаў пікету.

Мы падрыхтавалі ліст, які передалі кіраўніцтву Škoda разам з плакатамі. Праз некаторы час да нас выйшаў кіраўнік аддзелу камунікацый, які пераконваў нас, што Škoda падтрымлівае беларусаў і лічыць адзіным лагічным рашэннем не праводзіць чэмпіянат у Беларусі. Нам прынеслі гарбату і каву і паабяцалі адказаць на працягу тыдня на ліст і выказаць сваю пазіцыю Міжнароднай федэрацыі хакея. Адказ мы атрымалі нашмат хутчэй, ужо на наступны дзень. І тады ж яны зрабілі заяву, што падтрымліваць і спансаваць чэмпіянат, калі ён будзе праводзіцца ў Беларусі, не будуць.

На працягу чатырох месяцаў я вяла велізарную інфармацыйную працу – было некалькі эфіраў на чэшскім тэлебачанні пра чэмпіянат, мы зрабілі шмат інтэрв'ю са спартоўцамі і журналістамі, якія былі ў турме ў Беларусі. У выніку шмат чэшскіх палітыкаў выказаліся ў нашу падтрымку. Я пісала лісты ў Чэшскую федэрацыю хакею. Тут ужо ўсе ўсё ведалі, і таму такая вялікая кампанія ў выніку адмовілася ад спонсарства.

### Беларусы Італіі пікетавалі фірму Pirelli, аднаго з спонсараў хакейнага чэмпіянату

Кацярына Зюзюк: Тое, што зрабілі дзяўчаты ў Чэхіі і Швейцарыі, вельмі здорава і нас натхняе. На іх фоне мы зрабілі не так шмат. Акцыю каля Pirelli вельмі хутка арганізавалі. Надрукавалі плакаты і правялі акцыю пад Pirelli па-партызанску з прычыны ковідных абмежаванняў. Як законапаслухмяныя беларусы, мы звычайна робім дазволы і робім усё па правілах. Гэтым разам абставіны склаліся так, што не было іншага выйсця. Мы проста прыйшлі і пастаялі каля офіса Pirelli. Ніякай рэакцыі з боку кампаніі не было. А ліст мы падрыхтавалі, толькі не паспелі адправіць, бо чэмпіянат у Мінску адмянілі. Беларусы Італіі ўвесь гэты час падпісвалі петыцыі, правялі вялікую кампанію па інфармаванні італьянскага грамадства пра сітуацыю ў Беларусі.

### Чаму нельга "даваць клюшку дыктатарам"

Вераніка Чарняўская: Ціск быў настолькі моцны з усіх бакоў, што далей вытрымаць было немагчыма. Мы задаволеныя вынікам. З аднаго боку, нам вельмі сумна, бо мы рады, калі міжнародныя мерапрыемствы праводзяцца ў нашай краіне, але было б найвышэйшым цынізмам праводзіць чэмпіянат, калі столькі людзей сядзяць у турмах.

Дар'я Рудзько: Працытую Вацлава Гаўла: "Надзея – гэта не перакананасць у тым, што ўсё будзе добра, а ўпэўненасць: тое, што ты робіш, мае сэнс – незалежна ад таго, чым справа скончыцца". З такой надзеяй я жыла і займалася гэтым усе апошнія месяцы. Аргумент, што палітыка не тычыцца спорту – няслушны, і гэта неаднаразова пацвярджалася ў мінулым. Правядзенне чэмпіянату ў Мінску толькі ўмацавала б пазіцыі Лукашэнкі і ягоную перакананасць, што ў яго ўсё пад кантролем. Калі ў краіне больш за 35 тысяч чалавек былі затрыманыя па палітычных матывах, і сотні за кратамі, ніякіх адносін з астатнім светам як у спорце, так і ў іншых сферах быць не можа.



Кацярына Зюзюк (злева)

Кацярына Зюзюк: Калі я прачытала навіну пра адмену, у мяне з'явіліся слёзы ў вачах. Я адчула, якая мы вялікая сіла. Нягледзячы на тое, што Італія ва ўсёй кампаніі адыграла невялікую ролю ў параўнанні з тым, што зрабілі дыяспары Чэхіі і Швейцарыі, важны сам факт, што мы працавалі доўга, упарта і дамагліся гэтага выніку. Гэта для нас вельмі вялікая псіхалагічная падтрымка і матывацыя. Тут размова не пра палітыку ідзе насамрэч. Я б хацела растлумачыць спадару Фазэлю розніцу паміж палітыкай і катаваннямі ды рэпрэсіямі.

Ганна Соўсь, svaboda.org

in memoriam

# “САВЕЦКАЯ ЎЛАДА МЯНЕ ЗНІШЧАЛА”
## МАСТАК БАРЫС ЗАБОРАЎ ПАМЁР У ФРАНЦЫІ

Пра гэта паведамілі ў фейсбуку паэт Дзмітры Строцаў, рэжысёр Андрэй Курэйчык, журналіст Сяргей Ваганаў. Мастаку было 85 гадоў, прычына смерці пакуль невядомая.

Імя Барыса Заборава ў свеце, гаворачы пра мастакоў з Беларусі, мабыць, прамаўляюць праз коску пасля Шагала, пісала “Камсамолка” 12 гадоў таму.

Нарадзіўся Барыс Забораў у Мінску ў 1935-м у сям’і мастака, вучыўся ў Ленінградзе і Маскве. Затым вярнуўся ў Мінск.

Кар’еру мастака Барыс Забораў пачынаў у Мінску, у якасці кніжнага графіка і мастака тэатра. Шмат пакаленняў дзяцей пазнаёміліся з аўтарамі ад Шэкспіра, Уайлда і Пушкіна да Дастаеўскага, Купалы і Коласа дзякуючы ягонай графіцы. Кнігі, якія ён ілюстраваў, атрымлівалі высокія ўзнагароды, у тым ліку за мяжой.

Дома і ў майстэрні ён прымаў Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна, Валянціна Тараса, Навума Кісліка, Алеся Адамовіча, Булата Акуджаву, Аляксандра Галіча.

“Сярод маіх блізкіх сяброў былі дысідэнты. Але актыўнага ўдзелу ў дысідэнцкім руху я ніколі не браў”, – расказваў Забораў. Гэта не перашкодзіла ўладам правесціператрус у яго майстэрні ў навагоднюю ноч 1978 года.

Пасля некалькіх спроб яму ўдалося пакінуць Савецкі Саюз. Перад тым выехалі члены яго сям’і. Каб вырашыць справу са зняволеным на Валадарцы братам Заборава, давялося звяртацца да народных паэтаў Беларусі Аркадзя Куляшова і Петруся Броўкі, а ўжо Броўку – да першага сакратара ЦК КПБ Пятра Машэрава.

У Францыю ён з’ехаў у 1980 годзе.

“Калі я прыехаў у Парыж, на другі дзень у мяне быў нейкі французскі журналіст. Я па-французску – ні слова, быў перакладчык, і першае пытанне, які задае мне журналіст: “Вы з’ехалі, вядома, з палітычных меркаванняў?” І паспрабаваў павярнуць размову выключна ў гэта рэчышча. І я адразу яму сказаў тады – а значыць, гэта было ў маёй свядомасці – не, я не з’ехаў з палітычных меркаванняў. Твар яго спахмурнеў. І я адчуў, што ён цалкам страціў цікавасць да мяне.


Natalya Kanevsky (RFE/RL)


Wikimedia Commons

Рыгор Барадулін, Васіль Быкаў, Георгі Вылчаў і Барыс Забораў

І тым не менш, жывучы тут, я ўсё больш пераконваюся, што з’ехаў не з палітычных меркаванняў. Хоць я не ведаю, ці можна было пагарджаць савецкай уладай больш, чым пагарджаў ёй я. Яна мне была ненавісная, яна мяне знішчала. Не фізічна. Не хапала кіслароду. А самае галоўнае, як выйшла ў выніку: я не мог займацца тым, да чаго я сябе рыхтаваў усё жыццё – займацца жывапісам. Там гэтым займацца я не мог. І таму я цалкам сышоў у кніжную графіку. Гэтая сфера менш усяго кантралявалася ідэалагічнымі структурамі, таму што яна, як бы там ні было, вызначалася літаратурным зместам таго, што я ілюстраваў”.

Францыю Забораў лічыў роднай краінай. “Менавіта тут я знайшоў сябе. Што можа быць больш каштоўным у жыцці мастака, чым гэтае адчуванне і месца, дзе ён можа займацца сваім рамяством?”.

Карціна Заборава “Аўтапартрэт з мадэллю” вісіць у галерэі Уфіцы.

svaboda.org

навіны

# МЫТНЯ НЕ ПРАПУСЦІЛА ЗА МЯЖУ РАМАН ВІКТАРА МАРЦІНОВІЧА “РЭВАЛЮЦЫЯ”

Беларуская мытня не прапусціла за заходнюю мяжу раман Віктара Марціновіча “Рэвалюцыя”.

У інтэрнэт-краме knihi.by кажуць, што за мінулую восень было пяць выпадкаў, калі пасылкі з “Рэвалюцыяй” не выпускалі з краіны. Выпадкаў, калі раман Марціновіча ўсё ж трапляў да пакупнікоў, было ўдвая больш.

Пра такую ж праблему з пасылкамі за мяжу ад symbal.by расказаў на пачатку прадпрымальнік Павел Белавус. У яго мытня за тры месяцы без тлумачэння прычын затрымала каля 200 пасылак.

Чым мытні не спадабаўся раман Віктар Марціновіча “Рэвалюцыя”, зразумець цяжка. Хіба што назвай. У самой жа кнізе дзеянне адбываецца ў Маскве і да беларускіх падзей 2020 года не мае аніякага дачынення.

euroradio.pl



навіны

# У ПОЛЬШЧЫ АДКРЫЛІ ДЫСТАНЦЫЙНУЮ "БЕЛАРУСКУЮ АКАДЭМІЮ"

## ПАЧАЛІ З ПАДРЫХТОЎКІ СПЕЦЫЯЛІСТАЎ ДЛЯ ДЗЯРЖОРГАНАЎ

У Польшчы пачала дзейнічаць дыстанцыйная адукацыйная платформа "Беларуская акадэмія", якая ажыццяўляе навучанне на беларускай і рускай мове паводле Балонскага працэсу з наступнай выдачай дыпломаў аб вышэйшай адукацыі еўрапейскага ўзору.

Ініцыятарам стварэння "Беларускай акадэміі" стала прафесарка Святлана Куль-Сяльверстава, звольненая ў 2014 годзе з Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта, якая цяпер працуе ў Беластоцкім тэхнічным універсітэце "Politechnika Białostocka".

"Мы рэалізавалі гэтую ідэю ўсяго за тры месяцы. Беларусы змогуць навучацца, не выязджаючы з Беларусі. Пры гэтым студэнты маюць статус стацыянарнага навучання", – паведаміла Свабодзе Святлана Куль-Сяльверстава.

Паводле яе слоў, у "Беларускай акадэміі" будуць выкладаць беларускія выкладчыкі:

"Прафесары, дацэнты, палова з якіх – тыя, каго з палітычных матываў пазбавілі працы. Ёсць калегі з Беларусі, але працуюць, напрыклад, у ЗША, Кітаі, Швецыі, Фінляндыі, Літве, Польшчы, як я. Усяго нас каля 70 выкладчыкаў з імёнамі, досведам і кваліфікацыяй".

Першай спецыяльнасцю, на якую адкрылі набор, стала адміністраванне ў дзяржаўных органах, органах мясцовага самакіравання і бізнесе. Гэтая спецыяльнасць адкрытая ў беластоцкай філіі Wyższa Szkoła Kadr Menedżerskich (Вышэйшая школа менеджменту).

"Мы не ствараем новую навучальную ўстанову. Мы заключаем дамовы з еўрапейскімі вышэйшымі навучальнымі ўстановамі на адкрыццё спецыяльнасцей для студэнтаў з Беларусі. Мы там выкладаем пераважна па-беларуску, але ёсць і выкладанне па-руску, і адпаведна Балонскаму працэсу. А выпускнікі будуць атрымліваць дыплом той навучальнай установы, у якой адкрываецца і вядзецца навучанне па пэўнай спецыяльнасці", – растлумачыла ініцыятарка "Беларускай акадэміі".



Святлана Куль-Сяльверстава

Святлана Куль-Сяльверстава таксама кажа, што навучацца ў "Беларускай акадэміі" могуць і тыя студэнты, якія цяпер атрымліваюць адукацыю ў беларускіх ВНУ:

"Такія студэнты змогуць адначасова атрымаць дзве адукацыі – з беларускім дыпломам у Беларусі і з еўрапейскім дыпломам у нас. Навучанне платнае, але мы вызначылі па мінімуме. Гэтыя грошы ідуць выключна на аплату выкладчыкаў, падаткі і тэхнічнае забеспячэнне навучальнага працэсу. У нас няма рэктара, сакратарак і кабінетаў".

Святлана Куль-Сяльверстава кажа, што найбліжэйшым часам планеуецца адкрыць набор абітурыентаў яшчэ на адну спецыяльнасць – менеджмент у тэлемедыя і журналістыцы.

"Ёсць дамоўленасць пачаць набор у сакавіку. Гэтая спецыяльнасць будзе адкрытая ў іншай установе – у Вышэйшай школе фінансаў у Беластоку", – паведаміла яна і дадала, што ў планах таксама дзейнасць па паслядыпломнай адукацыі.

Паводле яе слоў, у "Беларускай акадэміі" могуць вучыцца і тыя беларусы, якія вымушаны былі ўцякаць ва Украіну, Польшчу ці Літву ад рэпрэсій у Беларусі.

"Беларуская акадэмія" стала другой дыстанцыйнай адукацыйнай платформай пасля адкрытай у лістападзе 2020 года дыстанцыйнай беларускай школы ва Украіне.

**Алена Літвінава, svaboda.org**

# ТЭРОР У БЕЛАРУСІ ГАЛАСАМІ ЎКРАІНСКІХ АКТОРАЎ

Кіеўскі тэатр драмы і камеды на Левым беразе Дняпра 29 снежня прадставіў акторскае чытанне сведчанняў ахвяр гвалту ў Беларусі ў часе затрымання на акцыях пратэсту і далейшага знаходжання ў ізалятарах.

Рэжысёры Паўло Ар'е і Тамара Трунова рэалізавалі гэтую пастаноўку на ініцыятыву арганізацыі Free Belarus Center, створанай ва Украіне для дапамогі беларусам, якія пацярпелі ад гвалту міліцыі і вымушаны былі з'язджаць з Беларусі ад пераследу.

Для чытання на сцэне былі выбраныя сведчанні з "Белай кнігі праваСуддзя", створанай у супрацы Беларускага Прэс-клуба, незалежных СМІ, Беларускай асацыяцыі журналістаў і праваабарончых арганізацый. Частка матэрыялу была прысвечаная затрыманню прадстаўнікоў Беларускага прэс-клуба.

На акторскія чытанні, якія адбываліся па-ўкраінску, прыйшлі шмат беларусаў, якія знаходзяцца ў Кіеве ў вымушанай эміграцыі.

Тэатр драмы і камеды на Левым беразе мае даўнія дачыненні з Беларуссю. Апошнія некалькі гадоў менавіта на гэтай сцэне ставілі свае спектаклі беларускія рэжысёры Дзмітры Багаслаўскі і Яўген Карняг, а ўкраінскія – у тэатры беларускай драматургіі ў Мінску.

**Алена Літвінава, svaboda.org**

## Беларускі каляндар памятных дат на люты 2021 года

**1 лютага**
- 210 гадоў таму, у 1811-м, нарадзіўся Рамуальд Зянькевіч, археолаг. Памёр у 1868-м.
- 30 гадоў таму, у 1991-м, памёр Станіслаў Шушкевіч, паэт, празаік.

**2 лютага**
- 160 гадоў таму, у 1861-м, памёр Міхаіл Гамаліцкі, гісторык.
- 25 гадоў таму, у 1996-м, памёр Алесь Звонак, пісьменнік.
- 15 гадоў таму, у 2006-м, памёр Пётр Марціноўскі, літаратуразнавец.

**4 лютага**
- 90 гадоў таму, у 1931-м, загінуў Усевалад Ігнатоўскі, гісторык.

**5 лютага**
- 105 гадоў таму, у 1916-м, нарадзілася Валянціна Пашкевіч (дзяв. Жукоўская), дзячка эміграцыі ў Канадзе.
- 20 гадоў таму, у 2001-м, памёр Масей Сяднёў, літаратар, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**7 лютага**
- 140 гадоў таму, у 1881-м, нарадзіўся Рамуальд Зямкевіч, краязнавец.

**8 лютага**
- 155 гадоў таму, у 1866-м, нарадзіўся Васіль Дружчыц (Друшчыц), гісторык. Расстраляны ў 1937-м.
- 100 гадоў таму, у 1921-м, нарадзіўся Іван Мележ, пісьменнік. Памёр у 1976-м.

**13 лютага**
- 215 гадоў таму, у 1806-м, нарадзіўся Юльян Корсак, паэт. Памёр у 1855-м.

**14 лютага**
- 115 гадоў таму, у 1906-м, нарадзіўся Мікола Улашчык, гісторык. Памёр у 1986-м.

**15 лютага**
- 95 гадоў таму, у 1926-м, нарадзіўся Мікола Ягаўдзік, вайсковец, дзеяч эміграцыі ў Бельгіі і ЗША. Памёр у 1989-м.

**17 лютага**
- 215 гадоў таму, у 1806-м, нарадзіўся Канстанцін Тышкевіч, гісторык. Памёр у 1868-м.
- 105 гадоў таму, у 1916-м, памерла Цётка (сапр. Алаіза Пашкевіч, па мужу Кайрыс), паэтэса.

**18 лютага**
- 65 гадоў таму, у 1956-м, памёр Янка Быліна (сапр. Ян Семашкевіч), пісьменнік.

**19 лютага**
- 120 гадоў таму, у 1901-м, нарадзіўся Сяргей Бусел, адзін з кіраўнікоў Слуцкага паўстання.

**21 лютага**
- 140 гадоў таму, у 1881-м, памёр Іосіф Ходзька, навуковец-геадэзіст.

**23 лютага**
- 130 гадоў таму, у 1891-м, нарадзіўся Міхаіл Піятуховіч, літаратуразнавец. Расстраляны ў 1937-м.

**25 лютага**
- 115 гадоў таму, у 1906-м, нарадзіўся Павел Каруза, кампазітар. Памёр у 1988-м.
- 35 гадоў таму, у 1986-м, памёр Ізыдар Гуткоўскі (сапр. Плашчынскі), літаратуразнавец.

**Беларусы ў свеце**
№ 1 (224), студзень 2021

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 357-70-27